*Дзяржава любіць жабракоў. Яны нясуць ёй золата (стар.2)*
*Ці могуць забраць у мяне зямлю? (стар.3)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты СВАБОДА
Наклад 31.750
Адрас рэдакцыі: 220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Серада, 27 жніўня 1997 г. № 94 Кошт свабодны

## «Дыверсія» расійскіх цыстэрнаў

**Учора на чыгуначнай станцыі Барысава працягвалася ліквідацыя наступстваў небывалай у Беларусі чыгуначнай катастрофы. Заканчвалася аднаўленне 3-га і 4-га пуцей і нацяжэнне электраправада.**

У суботу, 23 жніўня, у 150 метрах ад чыгуначнай станцыі Барысаў сышоў з рэек і загарэўся таварняк, які ішоў з Мінска на Оршу. Вагоны належалі расійскім прадпрыемствам. Прычыны катастрофы высвятляюцца. Ёсць версіі, што былі няспраўныя чыгуначныя пуці альбо калёсная пара цыстэрны з бензінам. Магчымасць тэракта выключаецца. У штабе грамадзянскай абароны Мінскай вобласці паведамілі, што спрацаваў аўтастоп і цыстэрны таварнага цягніка палезлі адна на адну ў два—тры ярусы. На рэйках засталася толькі адна цыстэрна, а астатнія перакуліліся, перакрыўшы два пуці. Страшэнны пажар ахапіў 14 цыстэрнаў з рэшткамі прапан-бутана (там было каля 7% выбухованебяспечнага газу), 7 цыстэрнаў з бензінам А-95. Пра тое, што знаходзілася ў астатніх цыстэрнах, пажарнікі даведаліся не адразу. Полымя шугала ў вышыню на 50—60 метраў. Ад высокай тэмпературы пажухла лісце на дрэвах, плавіўся бетон, а рэйкі скручваліся як вяроўкі. Пажарнікі тушылі полымя стоячы ў бензіне, які ліўся ручаём з цыстэрнаў (адна змяшчае 50 тон гаручага). Яны вымушаны былі ахаладжваць цыстэрны, а потым рыхтавацца да пеннай атакі. На месца катастрофы прыбылі тры пажарныя цягнікі. Даводзілася зразаць ніз вагонаў. Пад цыстэрнамі ўтварыліся паўтараметровыя ямы з бензінам. Сітуацыя ўскладнялася тым, што палаючы састаў стаяў паміж іншым саставам з бензінам і саставам з гумай і півам. Загарэўся суседні вагон з гумавымі пакрышкамі, які напоўніў паветра клубамі чорнага дыму. Часткова абгарэў вагон з півам і металаканструкцыямі. Паводле папярэдніх ацэнак, згарэла палова паліва, так неабходнага для бітвы за ўраджай. На мінскай чыгунцы ўчора яшчэ не падлічылі нават прыблізныя памеры нанесенага ўрону.

Міліцыя ачапіла вакзал і пачала эвакуацыю пасажыраў і жыхароў бліжэйшых дамоў. Усяго з месца здарэння вывезлі 150 чалавек.

23 пажарныя машыны з Барысава, Мінска, Маладзечна, Жодзіна, Крупак, Смалявічаў змагаліся з вогнішчам пад кіраўніцтвам начальніка ваенізаванай пажарнай службы Беларусі генерал-маёра Валерыя Астапава. Полымя лакалізавалі за дзве з паловай гадзіны. Састаў ператвараўся ў кучу металалому, які вывезлі на чатырох аварыйных цягніках. У нядзелю, каля 7 гадзін раніцы, тэрыторыя была расчышчаная. Поўнасцю мяняць давялося 500 метраў галоўных пуцей, 300 метраў высакавольтнай лініі і некалькі кантактных апораў. Да чыгуначных пабудоў і жылых дамоў полымя не дабралася. Па сваіх маштабах барысаўская катастрофа перакрыла асіповіцкую, калі цягнік з нафтай сышоў з рэек. Катастрофа ў Барысаве ўскладніла рух пасажырскіх цягнікоў. Толькі а 20-й гадзіне ў суботу іх пачалі прапускаць з дапамогай цеплавой цягі. Электрычкі такім жа чынам пачалі працаваць а 8-й гадзіне ў нядзелю.

У выніку чыгуначнай катастрофы пацярпеў 22-гадовы сяржант пажарнай службы Аляксандр Хоміч з Барысава, якога ўчора даставілі ў Мінскі апёкавы цэнтр.

Майстар-выратавальнік А.Хоміч атрымаў апёкі сярэдняй цяжкасці 35-ці працэнтаў цела ў выніку ўзгарання цыстэрны з бензінам, якую папярэдне толькі патушылі. Полымя пранікла пад выратавальны касцюм. Як паведамілі ў Мінскім апёкавым цэнтры, ягоны стан цяжкі. Па неафіцыйных звестках, пацярпелі яшчэ двое грамадзянаў.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Шарамет і Завадскі другі месяц у турме

*Учора споўніўся роўна месяц, як дырэктар беларускага бюро ОРТ Павел Шарамет знаходзіцца ў турме пад апекаю следчых КДБ. Лукашэнка заявіў, што «справа Шарамета» будзе даведзеная да суда.*

**Адвакат Алена Зарына, абаронца аператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага, якога ўтрымліваюць разам з Паўлам Шараметам пад вартай у Гродне, падала скаргу ў рэспубліканскую пракуратуру на дзеянні адміністрацыі СІЗО і пракурора па наглядзе за следствам.**

Як распавяла Алена Зарына, 21 жніўня яна прыйшла ў следчы ізалятар на чарговую сустрэчу з падабаронным. У ізалятары яе правялі ў строга вызначаны кабінет. Падчас размовы яна вяла запісы са словаў кліента, якія адносіліся да справы. Нечакана ў кабінет увайшоў канвойны і настойліва запатрабаваў прад'явіць запісы. Алена Зарына вымушаная была іх аддаць. Пасля гэтага адваката павялі ў аператыўную часць, дзе адміністрацыяй следчага ізалятара быў складзены акт аб канфіскацыі, як там было ўказана, «запісік». Зарына ў гэтым жа акце выклала рэальныя факты і адзначыла, што падобнымі дзеяннямі адміністрацыя груба парушыла правы яе кліента.

На наступны дзень А.Зарына гутарыла з пракурорам па наглядзе за следствам Гродзенскай абласной пракуратуры, які заявіў ёй, што пакуль па гэтым факце будзе ісці праверка, следчыя дзеянні з удзелам адваката праводзіцца не будуць. *«Я папярэдзіла пракурора, —* сказала А.Зарына, *— што падам скаргу ў рэспубліканскую пракуратуру. За гады маёй адвакацкай дзейнасці — гэта першы падобны выпадак. Усе мае калегі абураныя».*

Верагодна, падобнымі метадамі пэўныя сілы спрабуюць аказаць псіхалагічны ціск на Дзмітрыя Завадскага і ягонага адваката, аслабіць магчымасці юрыдычнай абароны перад маючым адбыцца судом. Тым не менш, па словах адваката, настрой і псіхалагічны стан Дзмітрыя *«нармальныя, ён цудоўна трымаецца, у яго разумная і паслядоўная пазіцыя па справе: ён гаворыць праўду».*

*БелаПАН*

## Журналіста Косціна выпусцілі на волю

**У панядзелак з лідскага СІЗО быў вызвалены тэлеаператар Уладзімір Косцін, які ўваходзіў у склад здымачнай групы ОРТ Анатоля Адамчука, затрыманай 15 жніўня на беларуска-літоўскай граніцы.**

Нагадаем, што трох астатніх журналістаў гэтай групы, якія з'яўляюцца грамадзянамі Расіі, беларускія ўлады перадалі расійскаму боку 22 жніўня.

25 жніўня Косцін быў выкліканы ва ўпраўленне КДБ па Гродзенскай вобласці, дзе яму паведамілі аб закрыцці крымінальнай справы па факце спробы нелегальнага пераходу дзяржаўнай мяжы. Калі настаў час распісацца ў пратаколе, каб атрымаць асабістыя рэчы, журналіст са здзіўленнем заўважыў, што, паводле гэтага дакумента, ён і астатнія члены здымачнай групы былі затрыманыя і правялі некалькі дзён у турме за «бродяжничество». (Значыць, беларуская ўлады падняла ўвесь гэты вэрхал з выкрыццём «правакацыі на граніцы» ўсяго з-за групкі звычайных валацугаў?)

Як паведаміла агенцтва БелаПАН, пасля вызвалення Уладзімір Косцін накіраваўся ў Шчучын, дзе жывуць ягоныя бацькі, бо даехаць да Мінска ён не змог па вельмі простай прычыне — не было грошай. 450 тысяч рублёў, якія журналіст меў пры сабе на момант арышту, пайшлі на аплату штрафу за знаходжанне без дазволу ў памежнай зоне.

**Язэп СІНІЦКІ**

## Еўрасаюз спадзяецца...

**Спецыяльны прадстаўнік Еўрасаюза выказаў упэўненасць, што трохбаковыя перамовы па ўдасканаленні канстытуцыйнага ладу Беларусі прынясуць пэўны поспех**

Спецыяльны прадстаўнік Еўрапейскага саюза спадар Марэна, які знаходзіўся ў Мінску з 20 жніўня, сустрэўся з дэпутатамі Вярхоўнага Савета 13-га склікання Васілём Новікавым, Уладзімірам Савічавым і Анатолем Лябедзькам.

Афіцыйны візіт у Мінск прадстаўніка Еўрасаюза (ён з'яўляецца паслом Еўрапейскай камісіі) меў на мэце сустрэчы з удзельнікамі трохбаковых перамоваў, якія праводзяцца пад эгідай ЕС, а таксама збор інфармацыі аб сённяшняй палітычнай сітуацыі ў краіне, у тым ліку ў сувязі з арыштам карэспандэнтаў ОРТ. Па словах Анатоля Лябедзькі, з вуснаў прадстаўніка Еўрасаюза прагучалі вельмі катэгарычныя ацэнкі таго, што адбываецца ў Беларусі. Спадар Марэна заявіў, што Еўрасаюз не мае намеру адступаць ад сваіх рэзалюцый па Беларусі, прынятых у кастрычніку і лістападзе мінулага года. Ён лічыць, што пры далейшым зацягванні перамоваў можна чакаць, што Еўропа зойме больш жорсткую пазіцыю ў дачыненні да нашай краіны.

Спадар Марэна яшчэ раз выказаў афіцыйны пункт гледжання Еўрасаюза наконт таго, што адзіным легітымным заканадаўчым органам Беларусі гэтая міжнародная арганізацыя прызнае Вярхоўны Савет. Ён заявіў, што перамовы — гэта пошук кампрамісу; з ягонага пункту гледжання, на дадзеным этапе да пошуку кампрамісу з гатоўнасцю ставіцца толькі Вярхоўны Савет. Са словаў Лябедзькі, спадар Марэна выказаў упэўненасць, што перамовы ўсё ж будуць мець пэўны вынік. Ён даў зразумець, што Еўропа можа абысціся без Беларусі, але Беларусі без Еўрасаюза і ЗША, якія валодаюць 85-ю працэнтамі ўсіх фінансавых запасаў свету, не абысціся ніяк. Больш таго, ідуць кансультацыі паміж Еўрасаюзам і Масквой, дзякуючы чаму, спадзяецца спадар Марэна, прэзідэнцкі бок можа атрымаць яшчэ адзін імпульс да стабілізацыі ў Беларусі.

У часе знаходжання ў беларускай сталіцы пасол Еўрапейскай камісіі сустрэўся таксама з прадстаўнікамі афіцыйнага Мінска, у тым ліку з прэм'ер-міністрам Сяргеем Лінгам. Чакаецца, што праз тры тыдні спецыяльны прадстаўнік Еўрасаюза спадар Марэна зноў наведае Мінск з тою ж мэтай — садзейнічаць дасягненню практычных вынікаў канстытуцыйных перамоваў паміж Вярхоўным Саветам і прэзідэнтам РБ.

*БелаПАН*

## У Мінск ляціць Прымакоў

**Чакаецца, што сёння ў другой палове дня ў Мінск прыляціць міністр замежных справаў Расіі Яўген Прымакоў.**

Як вядома, у панядзелак на сустрэчы з Прымаковым прэзідэнт РФ Барыс Ельцын даручыў кіраўніку МЗС РФ адправіцца ў Мінск для канчатковага ўрэгулявання пытання аб журналістах ОРТ. Плануецца, што Я.Прымакоў вернецца ў Маскву ў чацвер (цікава: з якімі вынікамі?).

## «Мінімалка» ўзрасце

**З 1 верасня чакаецца павелічэнне мінімальнай зарплаты**

Пра гэта паведаміў на прэс-канферэнцыі віцэ-прэм'ер беларускага ўрада Пётр Пракаповіч. Па ягоных словах, урад, улічваючы паляпшэнне працы ўсіх галінаў эканомікі, мае магчымасць з 1 верасня павялічыць мінімальную заробятную плату на трэць — са 150 тысяч рублёў да 200 тысяч. Тарыфная стаўка першага разраду адначасова будзе павышаная са 170 да 220 тысяч рублёў. Адпаведная пастанова будзе падпісаная да канца жніўня.

## За збор подпісаў – у пастарунак

Шэсць гадзінаў правёў на мінулым тыдні ў адным з міліцэйскіх пастарункаў Віцебска лідэр маладзежнай арганізацыі «Малады Фронт» Павел Севярынец.

Павел, які падчас летніх вакацыяў адпачываў у Віцебску ў бацькоў, вырашыў арганізаваць збор подпісаў грамадзянаў у абарону дырэктара беларускага бюро ОРТ Паўла Шарамета. Разам з некалькімі сябрамі ён хадзіў па кватэрах і прапаноўваў людзям ставіць свае подпісы на адпаведных лістах. Нейкі пільны пенсіянер убачыў у дзеяннях хлопцаў страшэнную крамолу і «стукнуў» мясцоваму ўчастковаму. Прыехаў нарад міліцыі, і зборшчыкаў подпісаў адвезлі ў Кастрычніцкі РАУС.

Міліцыянты тлумачылі затрыманне тым, што быццам бы ў хлопцаў няма адпаведнага дазволу гарадскіх уладаў на правядзенне гэтай акцыі. «Стражы парадку», напэўна, не ведалі, што для збору подпісаў ніякіх дазволаў прасіць не трэба. Тым не менш хлопцаў пратрымалі 6 гадзінаў і канфіскавалі лісты з 60 подпісамі.

Нагадаем, што Павел Севярынец быў актыўным удзельнікам усіх апазіцыйных акцыяў у Мінску, за ўдзел у якіх нават адсядзеў некалькі сутак у турме.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Ліквідуюцца пяць гарадскіх саветаў дэпутатаў

**Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб аб'яднанні шэрагу раёнаў і гарадоў у агульныя адміністратыўныя адзінкі.**

У іх ліку — Дзяржынскі раён і горад Дзяржынск, Добрушскі раён і горад Добруш, Крычаўскі раён і горад Крычаў, Лунінецкі раён і горад Лунінец, Навагрудскі раён і горад Навагрудак.

У сувязі з аб'яднаннем ліквідуюцца Дзяржынскі, Добрушскі, Крычаўскі, Лунінецкі і Навагрудскі гарадскія Саветы дэпутатаў, а таксама гарадскія выканаўчыя камітэты і іх органы. Адначасова ўстаноўлена, што за дэпутатамі ліквідаваных гарсаветаў на ўвесь тэрмін іхніх паўнамоцтваў захоўваецца статус дэпутата мясцовага Савета; яны могуць браць удзел у працы адпаведных раённых Саветаў дэпутатаў і іхніх органаў з правам рашаючага голасу. Абласным выканаўчым камітэтам даручана ў двухдзённы тэрмін стварыць ліквідацыйныя камісіі для вырашэння ўсіх пытанняў, звязаных з аб'яднаннем раёнаў і гарадоў, у тым ліку па перадачы маёмасці і працаўладкаванні работнікаў.

*БелаПАН*

## Зброю канфіскавалі. Што далей?

**Урад Беларусі вызначыў парадак выкарыстання канфіскаванай на мытні зброі.**

У прынятай у панядзелак спецыяльнай пастанове ўказваецца, што зброя і боеприпасы ваеннага прызначэння будуць перадавацца міністэрству абароны для прыняцця рашэння аб магчымасці іх выкарыстання, перапрацоўкі альбо знішчэння.

Паводле дакумента, выбуховыя рэчывы і адпаведныя прыстасаванні прамысловага прызначэння перадаюцца міністэрству па надзвычайных сітуацыях, якое будзе прымаць рашэнне аб магчымасці іхняга выкарыстання, рэалізацыі альбо знішчэння.

З гэтай жа мэтаю міністэрству ўнутраных справаў будуць перадавацца паляўнічую, спартыўную і газавую зброю і боеприпасы да іх, халодную зброю ўсіх відаў і газавыя балончыкі.

*Інтэрфакс*

## Наш цягач перацягнуў

**У Аб'яднаных Арабскіх Эміратах прайшоў тэндэр на пастаўку рознай тэхнікі.**

Мінскі завод колавых цягачоў, які прымаў удзел у прэстыжным мерапрыемстве, стаў пераможцам тэндэра, прадставіўшы там камбінацыю аўтацягніка, створанага сумесна з французскай фірмай «ЛОР» і арабскай «АТФ».

Найбольш канкурэнтаздольным аказаўся аўтацягнік грузападымальнасцю 70 тон. Як паведамляе «Белорусский рынок», менавіта на гэтую мадэль у выніку конкурсу завод колавых цягачоў можа атрымаць заказ больш чым на 120 адзінак тэхнікі. У тэндэры таксама ўдзельнічала еўрапейская і амерыканская тэхніка.

**Б.Р.**

## Колькі ў нас банкаў?

**Сёння ў Беларусі дзейнічае 37 камерцыйных банкаў.**

Як паведаміў мінстат, уклады насельніцтва ў камерцыйных банках на 1 жніўня бягучага года склалі 10 трыльёнаў рублёў. У параўнанні з 1 студзеня 1997 года яны павялічыліся на 30,2 працэнта пры росце спажывецкіх цэнаў за гэты ж перыяд на 43,2 працэнта.

*БелаПАН*

## Апошнюю кашулю — на культуру

**Аднаму жыхару Рэчыцы надакучылі размовы пра гаротны стан установаў культуры, і ён вырашыў дапамагчы ўласнымі сіламі.**

Гэты малады чалавек падараваў Рэчыцкай раённай бібліятэцы ўласную калекцыю кніг, а таксама відэамагнітафон, 38 відэакасет і пяць кампакт-дыскаў. Пры гэтым ён праявіў надзвычайную сціпласць і не пажадаў, каб ягонае імя стала вядомым.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Вырошчваць мак — справа небяспечная

**Больш за кілаграм сыравіны опіумнага маку сабралі ноччу двое наркаманаў на прысядзібным участку грамадзяніна К. у Мазыры.**

На бяду, сам гаспадар, пачуўшы шоргат, выйшаў на гарод, дзе быў жорстка збіты злодзеямі. Праўда, у тую ж ноч міліцыя затрымала аднаго з іх разам з ураджаем дурманнага зелля.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

Малюнак з газеты «Пагоня».

# Спецназ паказаў, як ліквідуюць тэрарыстаў

**У пасёлку Першамайскі, што пад Лідай, на сваце, прысвечаным развітанню з летам, лідскі спецназ прадэманстраваў сваю баявую падрыхтоўку.**

Перад публікай была інсцэніраваная ліквідацыя тэрарыстаў, якія захапілі заложнікаў у мясцовым клубе, потым быў прадэманстраваны захоп грузавіка са злачынцамі. З-за дымавых шашак немагчыма было разгледзець дэталі гэтых аперацыяў, але гэта не галоўнае — у абодвух выпадках умоўныя тэрарысты былі захопленыя.

Фіналам выступлення стала біццё бутэлек і сілікатных плітак рознымі спосабамі. Аб свае галовы маладыя хлопцы-спецназаўцы разбівалі бутэлькі з такой сілай, што асколкі разляталіся на некалькі метраў. У выніку гэтага небяспечнага занятку адзін са спецназаўцаў моцна параніў галаву вострымі асколкамі.

**А.КУНІЦКІ**

*На здымку: вось так б'юць адзін аднаго спецназаўцы, так яны вучацца біць іншых.*

# Сціплая чароўнасць БПСМ

**Актыўную дзейнасць разгарнуў у апошнія часы прэзідэнцкі «пацешны полк» — Беларускі патрыятычны саюз моладзі. Заклікі і паведамленні так і сыплюцца, як з рога дастатку. Даўно вядомы прынцып рэкламы — нагадай пра сябе, інакш пра цябе забудуць — бліскуча рэалізуецца ў выкананні прэс-службы вышэйпамянёнай арганізацыі. Што ж карыснага яна прапаноўвае нам і вам сёння?**

Самае актуальнае пытанне — бітва за ўраджай. Прэзідэнт ужо стаміўся змагацца сам (колькі ж можна, на самой справе!) і даручыў сваім верным маленькім дапаможцам-цімураўцам (ці «сашаўцам»?) разабрацца з ураджаем самім. І вось нараджаецца ў нетрах БПСМ замілавальны заклік: *«Дарагія сябры, равеснікі, ... усе на уборку ўраджаю!»* Твор прасякнуты такім шчырым хваляваннем за лёс збожжа і краіны, што нават міжволі хочацца захапіць самае неабходнае, і — туды, у палі, на дапамогу! Вось толькі, здаецца, самі вяскоўцы даволі скептычна ставяцца да ідэі дэсанту патрыятычна настроенай моладзі ў вёску. Ці мала што можа нарабіць «прыстойны», але некваліфікаваны юнак «з прэзідэнтам у сэрцы»? І потым, усе краіны як краіны, рыхтуюцца да пачатку гарачай пары, потым проста добра працуюць. (Ніколі не чуў, каб студэнтаў Сарбоны заклікалі замест вучобы ехаць «напружана працаваць» на палі, да прыкладу, Брэтаншчыны.) А ў нас што ні год — то нейкае змаганне, барацьба. Можа, ужо надышоў час падрасці і кінуць гэтыя дзіцячыя гульні ў «вайнушку»? Нават калі размова ідзе пра збор ураджаю.

Не можа БПСМ прайсці і міма «справы Шарамета—Адамчука». На іх думку, *«учынак Паўла Шарамета выклікае шчырае абурэнне ў сэрцы кожнага беларуса»*. Застаецца нявызначаным, дзе «таварышчы бэпэсэмаўцы» атрымалі такія дакладныя звесткі. Калі там жа, дзе прэзідэнт даведваецца пра агульнанародную падтрымку ягонага курсу, дык гэта становіцца нават нецікавым.

Нельга не адзначыць наяўнасць некаторай маніі велічы ў прадстаўнікоў славутай арганізацыі. Напрыклад, яны ўпэўненыя, што паездку іхняга лідэра Усевалада Янчэўскага ў Новасібірск абавязкова будуць асвятляць цэнтральныя расійскія сродкі масавай інфармацыі. Сапраўды, уся Расія толькі і чакае: калі ж гэта «таварышч Усевалад» да іх прыедзе? А калі ОРТ ды НТВ зробяць добры сюжэт, а то і не адзін, дык, можа, і дарує ім «правакацыйныя» ўчынкі прэзідэнт.

А мы, тым часам, будзем з цікавасцю сачыць за «плённай» працай БПСМ. Спадзяемся, што ўсе ягоныя заклікі ідуць хоць камусьці на карысць, і нездарма яго актывісты праядаюць народныя грошы.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Дзяржава любіць жабракоў. Яны нясуць ёй золата

У вас фінансавыя праблемы? І грошай ужо няма дзе пазычыць? Вы гатовыя развітацца з апошнім, што ў вас ёсць? У вас адзінае выйсце — пайсці ў скупку каштоўных металаў. Тут вы можаце прадаць дзяржаве залатыя пярсцёнкі, завушніцы, любыя іншыя ювелірныя рэчы і нават зубныя каронкі.

Такіх скупак у Беларусі няшмат — 15 на ўсю краіну, яны ёсць ва ўсіх абласных і некаторых буйных раённых цэнтрах. Там прымаюць ад насельніцтва вырабы з золата, срэбра і плаціны па цане металалому. Не вельмі прыемна развітацца са сваім залатым заручальным пярсцёнкам 583-й пробы, атрымаўшы ўсяго па 180 тысяч рублёў за грам, але нічога не зробіш.

Мінская скупка знаходзіцца на вуліцы Батанічнай. Яе можна ўбачыць яшчэ здалёк: на кожным кроку стаяць жывыя «арыенціры» — цыганкі рознага ўзросту, якія занадта настойліва прапануюць свае паслугі. *«Міліцыя не можа нічога зрабіць з перакупшчыкамі»*, — скардзіцца таваразнаўца-скупшчыца. Яе можна зразумець: з-за «канкурэнтаў» іхняя кантора другі месяц не можа выканаць план: скупшчыцам патрэбна набыць каштоўных рэчаў на 600 мільёнаў рублёў у месяц. Міліцыянты прыязджаюць толькі раз у дзень, некаторых вулічных перакупшчыкаў забіраюць, адвозяць у пастарунак і штрафуюць. Відаць, штрафы не надта вялікія, бо яны ўсё роўна вяртаюцца і працягваюць сваю справу. Цікава, што далёка не заўсёды перакупшчыкі прапаноўваюць чалавеку цану, большую за дзяржаўную, часцей за ўсё яны проста выкарыстоўваюць псіхалагічны ціск. Кожны, хто хоць раз сустракаўся з цыганкамі на вакзале, ведае, што гэта такое. Змухлююць ці надураць легкавернага небараку яны толькі так.

Асноўныя кліенты скупкі — гэта людзі, якія не могуць пражыць на тыя жабрацкія грошы, што плаціць ім дзяржава, і вымушаныя аддаваць апошняе, што яны маюць. Сярод іх шмат пенсіянераў, якім так цяжка выжыць пры існуючым узроўні цэнаў і пенсій. Але дзяржава, якая на словах дэкларуе любоў, пашану і павагу да старых людзей, на самой справе імкнецца і тут нажыцца. З чэрвеня гэтага года скупку прымусілі браць са сваіх кліентаў 9-працэнтны падатак — у выпадку, калі чалавек звяртаецца ў скупку ў другі раз на працягу года, або калі ён за адзін раз прынёс дзве рэчы. Дзяржава не хоча ўлічыць, што падаткі за гэтыя каштоўнасці ўжо былі ўплочаныя раней, пры набыцці рэчы яшчэ ў савецкія часы.

Увогуле, кліентаў няшмат. Таваразнаўцы тлумачаць гэта тым, што цэны, устаноўленыя дзяржавай, даволі нізкія. Тое ж золата 583-й пробы за мяжой Беларусі каштуе сем долараў за грам, а ў нас — толькі шэсць. За адзін грам золата 950-й пробы можна атрымаць менш за 300 тысяч рублёў, за грам «каронкавага» золата (900/750 пробы) — 266 тысяч рублёў. А грам срэбра найвышэйшай пробы ацэнены толькі ў 3.600 рублёў. Вось і ідуць каштоўныя металы з дапамогай злачынцаў за мяжу. І ніякія мытныя ці памежныя кардоны не перашкаджаюць.

«Ніколі не набывайце каштоўныя рэчы з рук», — раіць усім чытачам СВАБОДЫ супрацоўніца скупкі, якая пажадала застацца неназванай. Да яе часта прыносяць на экспертызу залатыя рэчы, якія на самой справе аказваюцца латунёвымі ці якімі-небудзь яшчэ. Падпольныя майстэрні навучыліся рабіць і фальшывыя клеймы, і пробы, і спецыяльныя зорачкі. Можна толькі пашкадаваць тых людзей, якія раней аддалі вялікія грошы за падробку. Таму лепш пераплаціць, але набыць рэч у спецыялізаванай краме.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

*Ліст у рэдакцыю*

# Ці могуць забраць у мяне зямлю?

Добры дзень, паважаная рэдакцыя газеты СВАБОДА! Я з'яўляюся вашым падпісчыкам і чытачом вось ужо тры гады. Пішa вам пенсіянер з г.п.Парычы Светлагорскага раёна Гомельскай вобласці. Маё пісьмо нясскладнае, але набярыцеся цярпення, прачытайце.

Жывём мы ўдваіх, мне — 68, жонцы — 69 гадоў. Маем каня, кабылу, карову, кабанчыка. Ля хаты прысядзібны ўчастак зямлі 23 соткі. Я яе прыватызаваў *(решение № 53 от 24 ноября 1995 г.)*. Адна суседка таксама прыватызавала, некалькі іншых сем'яў — не. Дык справа вось у чым. Сакратар нашага Парыцкага пасялковага Савета Дземідзенка Соня задумала прабіць новую дарогу, каб ёй было добра ездзіць. Я ёй заўважыў, што зямлю я купіў (ды яна і сама гэта добра ведае), як ты купіла сваю кватэру, і цяпер нікога сюды не пушчу. Яна мне адказала, што *«в интересах общественности мы можем назад отприватизировать»* — гэта значыць, адабраць назад. Кажу ёй: «Паколькі я яшчэ гаспадар гэтай зямлі, а вам занадта хочацца, дык купіце ў мяне за долары, па той цане, якую закажу, — так, як вы прадаяце свае прыватызаваныя кватэры».

У мяне да СВАБОДЫ некалькі пытанняў.

1. Ці могуць яны ў мяне назад «отприватизировать» маю зямлю?

2. Паколькі яна «наш» дэпутат і ўвесь час з намі ваюе, дык я думаю, што гэта не наш дэпутат. Наш дэпутат павінен адстойваць нашыя інтарэсы. Як яе адазваць з гэтай пасады? Як гэта робіцца? Ці па новай канстытуцыі аніяк? Колькі сябе помню, яна ў нас вечны сакратар пасялковага Савета. Мы, каго гэта тычыцца (усяго 7 сем'яў), напісалі заяву ў Светлагорскі райвыканкам, каб не рабілі новую дарогу па нашых агародах (нам і так добра). Але нам далі адтуль адпіску, каб мы не турбаваліся, таму што грошай на будаўніцтва дарогі пакуль няма, *«а в перспективе при наличии денежных средств такое строительство возможно и вопрос будет решаться в соответствии с действующим земельным законодательством»*. Калі такі закон ёсць, дык як ён дзейнічае на прыватызаваную зямлю? Ці гэта закон сталінскіх часоў? Мы чакаем вашага адказу пісьмом альбо праз газету. Бо не дадуць спакойна дажыць і памерці.

З павагай **ЯЦКЕВІЧ Міхаіл Рыгоравіч,** *г.п.Парычы, Светлагорскі раён*

**Каб адказаць на ліст чытача, мы звярнуліся за каментаром да старшыні Дзяржкамітэта па зямельных рэсурсах Георгія КУЗНЯЦОВА.**

Па словах Георгія Кузняцова, калі грамадзянін набыў зямлю ў прыватную ўласнасць, то ўжо ніхто не можа яе адабраць назад.

Для таго, каб пабудаваць дарогу ці нейкі іншы аб'ект, перш за ўсё трэба правесці праектна-пошукавыя работы, скласці праект, разгледзець іншыя варыянты будаўніцтва. Усё гэта магчыма толькі пасля папярэдняга ўзгаднення з уладальнікамі зямлі. А ў выпадку, калі ніяк нельга пазбегнуць выкарыстання прыватных земляў, павінен адбыцца суд, на якім уласнік будучь прапанаваныя альбо іншы раўнацэнны ўчастак зямлі, альбо грашовая кампенсацыя ўсіх выдаткаў, што панясе ўласнік у выніку страты зямлі. Але, як адзначыў Г.Кузняцоў, яшчэ не было ніводнага выпадку, калі б справа дайшла да суда.

У Беларусі, па дадзеных на 1 студзеня 1997 г., амаль што 3 мільёны чалавек маюць зямельныя ўчасткі, але толькі 366 тыс. чалавек (12,6%) займелі іх у прыватную ўласнасць.

Такім чынам, паводле словаў Г.Кузняцова, кожны грамадзянін можа быць спакойны: проста так ніхто ў яго зямлю не адбярэ. А калі нават якая-небудзь уладная ўстанова вырашыць выкарыстаць прыватную зямлю ў любых мэтах, дастаткова звярнуцца ў гэты самы Дзяржкамітэт, каб ён адмяніў незаконную пастанову і аштрафаваў чыноўніка-невука. Адрас камітэта: 220050, г.Мінск, вул. Камсамольская, 8/18, Дзяржкамітэт па зямельных рэсурсах, геадэзіі і картаграфіі.

А што датычыцца «вашага» дэпутата, шаноўны чытач, то ўсё, што мы можам параіць — у наступны раз добра глядзець, хто варты прадстаўляць вас у пасялковым Савеце, а хто не, бо цяпер адазваць ужо абранага дэпутата практычна немагчыма.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Belinfo — для тых, хто хоча згубіць свае грошы

Ці ведаеце вы, *«почему Республика Беларусь благоприятна для инвестиций»*? Не ламайце галаву — такой робяць яе *«политическая стабильность, общественное согласие, миролюбие и трудолюбие белорусского народа»*, а таксама *«новые возможности в ряде секторов: коммуникациях, энергетике, сельском хозяйстве и услугах»*. А самае галоўнае — *«экономическая политика и меры правительства Республики Беларусь, направленные на стабилизацию экономики, либерализацию цен и торговли, приватизацию и улучшение законодательства»*. Гэтыя захапляльныя звесткі я здабыў з кампакт-дыска пад тытулам *«Belinfo Belarus»*.

Яшчэ там можна даведацца, што *«законодательным органом власти Республики Беларусь является Парламент, состоящий из двух Палат — Палаты представителей и Совета Республики»*, а прэзідэнт *«является главой государства, гарантом Конституции, прав и свобод человека и гражданина»*. Аўтары гэтага мясцовай вытворчасці прадукту назвалі яго *«система комплексной поддержки бизнеса»*, дэкларуючы рашэнне праблемы *«достоверной информации о реальных условиях бизнеса, существующих в СНГ»* і з абяцанием *«за пару секунд предоставить вам горячие данные с максимумом подробностей о любой из стран СНГ»*. Наконт «любых краінаў» не ведаю, а інфармацыя аб радзімай Беларусі мяне вельмі зацікавіла.

Апроч ужо цытаванага эксклюзіву я знайшоў яшчэ намала карыснага. Напрыклад, што *«25 марта 1918 года — объявление независимости Белорусской Советской Социалистической Республики (БССР)»* ці што *«национальными спиртными напитками являются настойка «Беловежская» и водка «Белая Русь»*. Зацікавілі мяне статыстычныя звесткі. Так, па колькасці танкаў мая краіна пераўзыходзіць Іспанію, Францыю і Вялікабрытанію ўзятыя разам, хоць, на жаль, крыху саступае французам па бронетранспарцёрах і, самае галоўнае, нават да Украіны не дацягвае па штурмавых верталётах.

З новага дыска можна даведацца, куды пайсці вечарам пагуляць у рулетку, колькі заплаціць таксоўшчыку, і яшчэ шмат чаго. Аснову яго складаюць тры часткі: «турызм», адкуль я павыцягваў звесткі пра 25-е сакавіка і пра гарэлку, «статыстыка», дзе, апроч зброі, фінансаў, прамысловасці і іншага, ёсць яшчэ, скажам, звесткі па ўзроўні жыцця насельніцтва — чамусьці сціпла пададзеныя толькі на 1995 год, хоць кампакт датаваны чэрвенем 1997 года. Апошняя частка — «бізнес», запоўненая базай звестак, дзе можна даведацца пра заканадаўства, бізнес-цэнтры, мытныя працэдуры, крамы, а галоўнае — пра пэўную колькасць зарэгістраваных прадпрыемстваў, дзе я, на жаль, не знайшоў згадкі пра кампанію *Science & Business Software Group* (самога творцу прадукта).

Калі патэнцыйны партнёр беларускага бізнесу ўжо праштудзіраваў усю патрэбную наву-ку, ён можа ўпэўніцца ў сваёй кампетэнцыі праз падрыхтаваныя для яго тэсты. Той, хто правільна адкажа на пытанні накшталт «колькі каштуе паездка на таксоўцы ад вакзала да любога гатэля», здагадаецца, што РБ палягае не ў Азіі і не на поўдні Еўропы, а таксама адгадае, што самыя цікавыя *«белорусские изделия»* вырабляюцца не з косткі і дрэва і не з мармуру, а *«из соломки»*, — цалкам гатовы для працы ў Беларусі. А калі вы зразумееце, што рэкамендуецца ўвозіць камп'ютэры і праграмы ці медыкаменты, мець пачатковую суму не менш за 100 тысячаў долараў, супрацоўнічаць з людзьмі старэйшымі за 25 год з досведам працы ў органах кіравання, ды яшчэ будзеце ведаць *«русский язык»* — поспех вам, як абяцае *«Belinfo Belarus»*, абсалютна забяспечаны.

Безумоўна, ідэя актуальнага нацыянальнага бізнес-даведніка ў камп'ютэрным фармаце заслугоўвае ўсялякае пашаны. З боку тэхналогіі гэты прадукт таксама не выклікае прэтэнзіяў — зручны інтэрфейс, лёгкае карыстанне. Але зразумела, чаму, як мне стала вядома, адміністрацыя прэзідэнта адразу закупіла 500 штук «Белінфы» — ідэя гэтага інфармацыйна «кульгавага» прадукта свеціцца праз усе шчыліны: дарагія вы нашыя дурненькія замежныя інвестары, ляціце сюды, «матылькі», нясіце свае пригожыя зялёненькія грошыкі — на АМОН не хапае!

**Вацлаў АРЭШКА,** *«Наша Ніва»*

*Ходят слухи, что аборты собираются запретить*

# Минздрав предупреждает...

**Слухи о том, что в поликлиниках действует негласный запрет на выдачу направлений на проведение абортов женщинам до 35 лет, имеющим менее 3 детей, упорно ходят по Минску уже несколько месяцев. Звучит вроде бы абсурдно. Но в свете множества последних решений нашего правительства он не кажется таким уж невозможным. Когда здравый смысл перестает быть советчиком, логику власть предержащих понять порой намного сложнее, чем логику 16-летнего подростка. Какова реальная ситуация? С этим вопросом мы обратились в Минздрав, к начальнику отдела материнства и детства Зинаиде СЕВКОВСКОЙ.**

— Я сама эту информацию почерпнула из газет. Заверяю вас, что в Министерстве здравоохранения никогда не готовился документ, запрещающий аборты. Такое решение абсурдно. Издать закон о запрете абортов было бы в первую очередь проявлением дискриминации женщин, нарушением прав человека. Если государство не предоставило достаточного объема доступных по цене контрацептивных препаратов, не обеспечило высокий уровень сексуальной культуры, запрещать аборты нельзя. Конечно, ситуация с профилактикой нежелательной беременности очень актуальна для Беларуси.

**— А какая ситуация сегодня с абортами?**

— На каждые 100 родов приходится 160 абортов. Эта цифра ниже, чем в прошлые годы, но по-прежнему очень высока. И, к огромному сожалению, мы можем говорить, что аборт в нашей стране — это основной метод регуляции рождаемости. Но идея, будто бы запрещением абортов можно повысить рождаемость, — абсолютно необоснованна. Женщины отказываются иметь детей отнюдь не потому, что с легкостью могут прервать беременность, а совершенно по иным причинам. Нет жилья, нет возможности обеспечить ребенка материально, нет моральной поддержки от мужчины. Основа — в экономической сфере. И без решения экономических проблем рождаемость не повысить никакими запретами.

**— Женщины какого возраста в основном делают аборты?**

— Примерно 70—75 процентов — это женщины до 30 лет. В 1996 году 166 тысяч женщин прервали беременность (включая и «вакуум»). Из них около 12 тысяч — в возрасте до 19 лет. И около 600 — до 15 лет. К сожалению, молоденькие девочки делают аборты на большом сроке. Наверное, боятся вовремя сказать родителям, прийти в консультацию, надеются, авось пронесет.

Но как бы ни запрещались аборты, сексуальные отношения от этого не станут менее активными. Значит, будут криминальные аборты, возрастет материнская смертность. Мы будем терять молодых женщин. Возрастет детоубийство.

И еще. Вспомните ситуацию в Польше после запрещения абортов по религиозным мотивам. Стали популярными так называемые «абортные» туры в Россию, Беларусь, Румынию. Поэтому надо не запрещать аборты, а вкладывать средства в пропаганду культуры сексуальных отношений, надо говорить о ценности семьи, о любви.

**— Вы не допускаете, что такой закон, пусть мы и говорим о его нереальности, может быть принят, минуя ваше министерство?**

— Вполне допускаю. Мы из газет узнали о приказе «О временных правилах по торговле продукцией, содержащей элементы эротики». Он может затруднить наши усилия по созданию специальной литературы, призванной помогать сексуальному воспитанию, по профилактике инфекций, передаваемых половым путем, и СПИДа, которые сейчас захлестнули страну. Конечно, в Беларуси сильно снизилась рождаемость: с 1986 года примерно на 40—45 процентов. Это очень много. Но запрет абортов ничего не решит.

**Ирина МАТЯС,** *«Белорусская газета»*

*Для справки:*

**ЯПОНИЯ.** Три года назад единственным легальным средством контрацепции здесь был презерватив. Только в последнее время разрешено применение медикаментозных противозачаточных средств. Ежегодно в Японии производится около 430 тысяч абортов. Стоимость операции — примерно $1.000. В Японии существуют специальные кладбища абортов, на которых могилы украшены только статуэтками детей. Нерожденный ребенок японцам обходится около $600 — за статуэтку, уход за могилой и постоянные пожертвования храмам на замаливание грехов.

**ФРАНЦИЯ.** С 1920 до 1974 г. здесь действовал закон, запрещающий аборты. Сотни тысяч женщин калечили себя подпольными абортами. Сегодня во Франции делается около 200 тысяч абортов в год. Несмотря на то, что в 1993 г. принят закон, запрещающий любое вмешательство в проведение абортов, продолжается активная травля «убийц». Сама г-жа Ширак выступает за запрет абортов.

**США.** В 1996 г. президент Клинтон наложил вето на закон о запрещении абортов на поздних сроках беременности. Его поддерживают 60% американцев. Сегодня в Америке идет настоящая война, развязанная противниками абортов. За последние несколько лет во время нападений на медицинские центры, в которых проводятся аборты, убито несколько десятков врачей и посетителей.

**РОССИЯ.** 3,5 млн. абортов в год (без учета абортов, сделанных в частных клиниках). Фактически прерывается 3 из 4 беременностей — самый высокий показатель в мире. Аборты в России, как и в Беларуси, проводятся бесплатно. На поздних сроках — по социальным и медицинским показаниям. Несколько лет назад в России появилось движение противников абортов «Движение в защиту жизни». Пока они ограничивают свою деятельность лекциями в студенческих аудиториях, разговорами с теми, кто собирается делать аборт на поздних сроках беременности. Но, как показала практика, подобные движения в определенный момент перестают быть мирными.

# Классическое заказное убийство раскрыто

**Сенсацией последнего рабочего дня прошлой недели стало сообщение информационных агентств о том, что раскрыто заказное убийство президента Федерации хоккея России Валентина Сыча.**

Сообщения разных источников расходятся в количестве арестованных по обвинению в причастности к убийству. ИТАР-ТАСС утверждает, что таковых 10, Интерфакс — 6, а еще двое находятся в розыске. Среди арестованных и бывший президент Международной хоккейной лиги, а ныне заведующий кафедрой Академии физической культуры Роберт Черенков, которого называют одним из главных организаторов преступления.

По словам начальника следственного управления Генпрокуратуры РФ В.Казакова, убийство В.Сыча носило *«классический заказной характер»*. За его совершение была уплачена сумма, исчисляемая в десятках тысяч долларов. По предварительным данным следствия, в основе преступления лежит прежде всего борьба за власть в Федерации хоккея.

Даже самый далекий от спорта человек уже знает, что это бизнес, в котором крутятся бешеные деньги. Ну а там, где «кэш», там и криминальные структуры. И, естественно, отнюдь не спортивные разборки.

**Олег Каратаев**, пятикратный чемпион СССР по боксу, вице-президент Всемирной боксерской ассоциации, убит выстрелом в затылок в январе 1994 года в Нью-Йорке, на знаменитой улице «маленькой Одессы» — Брайтон-Бич.

**Юрий Ступеньков**, президент профессиональной лиги кикбоксинга (КИТЭК), расстрелян из автомата в феврале 1994 года в дачном поселке Видновского района Подмосковья.

**Отари Квантришвили**, председатель Фонда социальной защиты спортсменов имени Льва Яшина, заслуженный тренер по греко-римской борьбе, в апреле 1994 года убит выстрелами из снайперской винтовки при выходе из Краснопресненских бань в Москве.

**Лев Гаврилин**, член оргкомитета Игр доброй воли, эксперт дирекции внешнеэкономической деятельности Национального фонда спорта, в июле 1995 года убит семью выстрелами в упор в подъезде своего дома в Санкт-Петербурге.

**Вячеслав Цой**, основатель Международной академии восточных единоборств, руководитель Центра боевых искусств, в июле 1995 года убит семью выстрелами в упор в подъезде своего дома в Санкт-Петербурге.

**Александр Брагин**, президент АО Футбольный клуб «Шахтер», и пять его телохранителей убиты в Донецке в октябре 1995 года в результате мощного взрыва.

**Александр Дузенко**, мастер спорта по вольной борьбе, инструктор ЦСКА, в ноябре 1995 года убит в Москве возле подъезда своего дома на улице Дыбенко.

**Борис Федоров**, президент Национального фонда спорта и банка «Национальный кредит», в июне 1996 года подвергся нападению в Москве возле дома N 15 по Мерзляковскому переулку.

**Лариса Нечаева**, генеральный директор московского футбольного клуба «Спартак», застрелена в июне 1997 года на своей даче в поселке Таратино Владимирской области.

Несмотря на разницу в географии и повадках киллеров, у всех этих преступлений есть одна характерная черта — следствие, как правило, заходило в тупик. Так что результаты расследования убийства В.Сыча могут стать их первой ощутимой победой. Если, конечно, дело не развалится в суде.

**Владимир ВИГМАН, Александр АМАЛИН**

# Пола Джонс против Билла Клинтона



*На снимке: Пола Джонс (слева).*

Судебный процесс, в ходе которого президент Клинтон будет выступать в роли ответчика по обвинению в сексуальных домогательствах, начнется 27 мая будущего года. Истица — некая Пола Джонс — утверждает, что в 1991 году, когда Билл Клинтон был губернатором штата Арканзас, а она работала там в одном из государственных учреждений, нынешний президент пытался соблазнить ее в номере отеля «Эксельсиор». После того, как она отвергла эти домогательства, она якобы была понижена в должности. «Моральный ущерб» она оценивает в 700 тысяч долларов. Клинтон своей вины не признает и утверждает, что вообще не припоминает каких-либо встреч с Полой Джонс.

# Не в чулке, так в акциях

Руководство чикагской детской больницы *Children's Memorial* было немало удивлено, когда через десять лет после смерти некой мисс Глэдис Холм, секретарши, в жизни не зарабатывавшей больше 15 тысяч долларов в год, выяснилось, что она завещала больнице целое состояние. В этой клинике мисс Холм бывала частенько: помогала ухаживать за детьми, дарила им плюшевых мишек, но однажды невзначай обмолвилась, что, мол, у нее «есть кое-что» посерьезней. Тогда, естественно, этому не придали никакого значения. Теперь же, получив чек на 18 млн. долларов, врачи попытались выяснить, откуда у старушки такие деньги.

Оказалось, что все 41 год своей работы в фирме, занимавшейся снабжением медучреждений, по совету своего шефа она вкладывала излишки денег в ценные бумаги. Припоминают, что если он покупал 1.000 акций, то послушная мисс Холм — 10 таких же. Поскольку наследников у нее не было, то все эти деньги она завещала на нужды педиатрии.

# Слонов бить нельзя, а медведей — можно

Настойчивые попытки трех африканских стран — Ботсваны, Зимбабве и Намибии — добиться частичного снятия запрета на продажу слоновой кости не принесли желаемого результата. Даже предложенный ЮАР компромиссный вариант не набрал необходимого большинства в две трети голосов на встрече участников Конвенции о международной торговле находящимися под угрозой уничтожения видами флоры и фауны /СИТЕС/.



В весьма обширной повестке дня прошедшего в зимбабвийской столице Хараре форума этот вопрос стал одним из самых противоречивых. С одной стороны, у инициаторов пересмотра принятого еще в 1989 году моратория имеются весомые аргументы в виде скопившихся 100 тонн слоновой кости. Из-за запрета они не в состоянии ее сбыть, хотя японские компании, например, заинтересованы в закупках. Кроме того, значительно возросшее за последнее время на юге континента число гигантов саванны, превышающее уже 150 тысяч, стало негативно сказываться на экологическом балансе.

С учетом всех этих обстоятельств и было выдвинуто предложение возобновить под строгим международным контролем отстрел слонов в регионе и торговлю бивнями, а вырученные средства направить на нужды заповедников и компенсацию ущерба сельским жителям. Однако многие западные страны и организации по охране природы в свою очередь утверждают, что подобные меры неизбежно приведут к возобновлению в массовых масштабах браконьерства и контрабанды слоновой костью. Их точку зрения поддержала 41 делегация, а 75 сторонникам африканского проекта не хватило всего 3 голосов для получения квалифицированного большинства. Часть присутствующих на встрече представителей 138 государств воздержалась или не имела соответствующего мандата. Но Зимбабве, Намибия и Ботсвана не смирились с поражением и намерены теперь вынести «на суд общественности» первоначальный план, исключив южноафриканские дополнения. Если и этот маневр не увенчается успехом, то они уже дали понять, что оставляют за собой право в одностороннем порядке приступить к торговле бивнями даже «без благословения конвенции», пока не получат от нее доказательств о вновь нависшей над животными угрозе со стороны браконьеров.

Не удалось набрать на конференции необходимого большинства также Японии и Норвегии, которые настаивали на послаблениях в отношении добычи некоторых видов китов. Вместе с тем, не обошлось без неудач и в «лагере защитников природы». При всем старании они так и не добились своей цели *«повысить охранный статус»* европейских и азиатских бурых медведей, что автоматически сделало бы незаконной даже ограниченную охоту на них.

Особенно активно против данного нововведения выступала делегация России, где сейчас обитает до 100 тысяч бурых медведей. Она мотивировала свою позицию тем, что только за последние 15 лет их популяция возросла почти на 30%. А поэтому строго контролируемый ежегодный отстрел примерно 3,5 тысячи особей не представляет никакой опасности для дальнейшего существования этих сравнительно редких животных.

Причем, как признали и эксперты СИТЕС, аналогичная ситуация, за исключением Японии, а также ряда стран Западной Европы, характерна и для других регионов, где общая численность бурых медведей неуклонно увеличивается. В итоге предложение о выдаче им *«охранной грамоты первой степени как находящимся под угрозой полного уничтожения»* после бурных дебатов на встрече все же не прошло.

**Юрий ПИЧУГИН**

# Россия распродает партийное серебро

Об этом пишет британская «Санди Таймс». Как стало известно корреспонденту газеты, Борис Ельцин своим указом разрешил продажу нескольких десятков столовых предметов, которые были предназначены для особо важных кремлевских банкетов. Газета также располагает информацией о том, что покупателем исторических ценностей стал калифорнийский бизнесмен Митч Сиглер. Точную стоимость покупки Сиглер назвать отказался. Однако, по информации газеты, пара серебряных рюмок, из которых, возможно, пил сам Брежнев, будет стоить 99 долларов. За эту же сумму любой коллекционер сможет приобрести и чайный стакан с элегантной гравировкой дикого лебедя, пишет «Санди Таймс».

В заключение статьи автор отмечает, что решение о продаже партийного серебра, по всей видимости, было продиктовано двумя причинами. С одной стороны, «обновленная» Россия старается очистить свои шкафы от прошлого. С другой, российская экономика сегодня переживает глубокий экономический кризис. Однако каким образом полученные от продажи серебра деньги смогут исправить ситуацию, автор статьи ответить затрудняется.

# Британская колония погибает

В восточной части Карибского моря в группе Малых Антильских островов есть маленький остров — Монтсеррат. Остров — колония Великобритании, и проживают на 103 квадратных километрах 11 тысяч человек. До июля этого года на жизнь там никто не жаловался. Но в конце июля молчавший долгие годы вулкан Чансес Пик, входящий в горную гряду Суфриер Хиллс, подал первые признаки пробуждения.

К середине августа вулкан проснулся окончательно. Под огненным потоком лавы и пепла оказались две трети территории острова. Погибли несколько десятков человек. Полностью разрушены автомагистрали, железная дорога и аэропорт. Город Плимут, административный центр колонии, погребен под многометровым слоем лавы. Не тронута стихией лишь северная часть острова. Сейсмологи, наблюдающие за извержением вулкана, выступили со страшным прогнозом: в ближайшие дни произойдет мощнейшее извержение, и весь остров будет уничтожен лавой. К острову устремились британские военно-морские силы и авиация, началась полная эвакуация населения острова.

Тем не менее в минувшую пятницу на острове вспыхнули массовые волнения жителей, требующих незамедлительных действий со стороны британского руководства и местной администрации по обеспечению эвакуации ввиду ожидающегося разрушительного извержения вулкана Чансес Пик. Ситуация оказалась неподконтрольной, все руководство колонии подало в отставку, а главный министр в администрации Монтсеррата Бертранд Осборн смещен с должности ввиду неспособности обеспечить социальную стабильность на острове.

Ночью в центральном городе острова — Салеме начались погромы: местные жители жгли полицейские участки и блокировали здание местной администрации. Полиция была вынуждена применить резиновые дубинки для разгона сотен манифестантов, имеется много раненых. Днем начались рукопашные стычки протестующих с местной полицией, держащей оборону в районе административного комплекса зданий. Число пострадавших возросло. Причина яростного протеста островитян — нежелание официального Лондона удовлетворить требования об увеличении размеров компенсаций. Великобритания готова заплатить каждому жителю лишь от 600 до 2,5 тысячи фунтов стерлингов, что в несколько раз ниже требуемой суммы.

В самом Лондоне усилилось давление на правительство со стороны членов британского парламента, выступающих за немедленную положительную реакцию премьер-министра на требования жителей Монтсеррата. Как заявил депутат нижней палаты Берни Грант, *«нерешительность властей в отношении проблем острова вызывает отвращение»*.

По последним сообщениям, полиция и военные Монтсеррата пытаются нормализовать обстановку и призывают оставшихся там жителей покинуть остров. Что же касается денег, то вопрос остается открытым.

**Денис ФЕДОРУК**

© СВАБОДА Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by СВАБОДА ў Internet: http:\\www.gis.minsk.by Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 31.750
Нумар падпісаны ў друк 26.08.97 (15:00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 215 Заказ 346